БІБЛІЯТЭКА
Беларускага літаратурнага аб'яднання
"БЕЛАВЕЖА"

Серыя заснавана ў 1990 г.

**Кніга сто другая**

Гэту кнігу склалі старонкі ўспамінаў Серафіма Андраюка, надрукаваныя ў часопісе "Тэрмапілы" ў 2013–2016 гадах. Выдатны беларускі літаратуразнаўца Серафім Андраюк народжаны ў 1933 годзе ў вёсцы Грэдэлі каля Бельска, дзе прайшлі яго дзіцячыя гады. Кніга ўяўляе сабой вялікую цікавасць не толькі для творчай інтэлігенцыі Беларусі, але, мабыць, найперш – для беларусаў Польшчы. У ёй адлюстравана тутэйшая наша нацыянальная гісторыя – з яе драматычнымі сацыяльна-грамадскімі і палітычнымі падзеямі і, вядома, з жыццёвым шляхам самога Серафіма Андраюка, у біяграфіі якога ўвасабляюцца пэўныя гістарычныя заканамернасці ды метафізіка чалавечага лёсу.

# КНІГІ І ЖЫЦЦЁ

Беларускай прозе, якая (зусім не будзе перабольшаннем сказаць пра гэта) дасягнула ў XX стагоддзі сусветнага ўзроўню, несумненна, пашанцавала і ў тым, што яе лепшыя творы пастаянна знаходзяцца ў полі зроку такога сур'ёзнага, уважлівага, абазнанага і грунтоўнага даследчыка, крытыка, як Серафім Андраюк. Так, яго галоўная ўвага сканцэнтравана на прозе, пры тым пераважна на яе сучасным стане. У гэтым, у адданасці аднаму напрамку даследчыцка-аналітычнай, літаратурна-крытычнай дзейнасці, пэўнай сферы літаратурнай творчасці, выяўляецца характар вучонага, пастаянства яго навуковых інтарэсаў. Проза для яго з'яўляецца найбольш жыццеўмяшчальным, сэнсаваёмістым, універсальным відам літаратурнай творчасці, здольным сказаць вялікую праўду пра чалавека.

У гісторыі беларускай крытыкі, думаецца, класічным узорам назаўсёды застануцца андраюкоўскія агляды прозы сямідзясятых гадоў. Яны сапраўды класічныя па ступені пранікнення аўтара ў абставіны літаратурнага працэсу, раскрыцця мастацкай адметнасці кожнай больш або менш прыкметнай з'явы, скіраванасці на выяўленне заканамернасцей развіцця прозы на пэўным этапе, яе найбольш характэрных адзнак.

Гэтыя агляды, падрабязныя і грунтоўныя, як і ўсё, што робіць С. Андраюк, з'яўляюцца яскравым прыкладам практычнага ўвасаблення аўтарскіх канцэпцый і падыходаў, якімі кіруецца крытык. Для іх характэрна плённая спалучанасць аналітычнага разгляду значнага літаратур-

нага матэрыялу з тэарэтычнымі развагамі, з роздумам над прыродай слоўнага мастацтва.

У працах С. Андраюка ўвогуле заўсёды вельмі натуральна паядноўваюцца прыкметы ўсіх асноўных галін літаратуразнаўства: гісторыі літаратуры, тэорыі літаратуры і літаратурнай крытыкі. У такім сінтэтызме – своеасаблівасць творчай манеры даследчыка, стылю яго выкладу, характару яго мыслення. Можна з упэўненасцю сказаць, што С. Андраюк адносіцца да тых даследчыкаў, для якіх галоўнае – вызначэнне агульных заканамернасцей развіцця літаратуры, асноватворных уласцівасцей гэтага віду мастацтва. У гэтым напрамку ім зроблена нямала.

У артыкуле "Роздум у дарозе" С. Андраюк вельмі дакладна і выразна ахарактарызаваў першаснае патрабаванне самараскрыцця пісьменніка як чалавека і мастака: "Мы часта і небеспадстаўна гаворым, – піша ён, – пра вернасць мастака рэчаіснасці, забываючы, што вернасць гэтая – перш за ўсё **вернасць мастака самому сабе**. Бо навакольны свет наогул, жыццё наогул **без яго асабістага непаўторнага бачання і асэнсавання** – для літаратуры толькі сыры матэрыял" (вылучана мной – *Я. Г.*).

На гэтую думку выдатнага навукоўца і крытыка варта звярнуць асаблівую ўвагу, паколькі за ёю прадуманая і цэласная канцэпцыя літаратуразнаўчага даследавання. У адпаведнасці з ёю С. Андраюк вылучае ў якасці аднаго з найважнейшых аспектаў літаратурнай творчасці праблему аўтарскага бачання, аўтарскіх адносін да рэчаіснасці і мастацтва.

Без выразна выяўленай мастакоўскай і грамадзянскай пазіцыі аўтара, яго ўласнага бачання жыццёвых праблем, непасрэднага суперажывання ўсяму таму, што становіцца прадметам яго ўвагі і вобразнага ўвасаблення, сапраўды наўрад ці магчыма дасягнуць хоць колькі-небудзь значных поспехаў у мастацтве. С. Андраюк заўсёды памятае аб тым, што літаратура – гэта найперш

адзін з відаў мастацтва, што гэта творчасць, у якой істотнейшае значэнне мае раскрыццё ўнутранага свету творцы, яго мастацкіх здольнасцей, таленту.

Важкім укладам у беларускае тэарэтычнае літаратуразнаўства з'яўляюцца працы С. Андраюка, змешчаныя ў калектыўнай манаграфіі "Стыль пісьменніка" (1974): раздзел "Іван Мележ" і асабліва ўступны артыкул да ўсяго выдання – "Да пытання аб індывідуальным стылі пісьменніка", у якім выкладаюцца канцэптуальныя палажэнні тэорыі літаратурнага стылю. У беларускай літаратуразнаўчай навуцы другой паловы XX стагоддзя гэта адна з першых і самых грунтоўных распрацовак праблемы стылю.

Сцвярджаючы непарыўную сувязь літаратуры з жыццём як першасную ўмову творчасці, С. Андраюк падкрэслівае, што сувязь гэта не можа мець фармальны характар, яна павінна грунтавацца на выяўленні асабістых адносін аўтара да выяўленага ім у творы, на раскрыцці ў творы чалавечай і мастакоўскай сутнасці аўтара.

З уласцівай яму грунтоўнасцю, шырынёй ахопу ўсіх аспектаў праблемы С. Андраюк вызначае самыя істотныя і характэрныя ўласцівасці стылю, падкрэсліваючы ў першую чаргу яго сістэмны характар. Сістэмнасць гэта, на думку даследчыка, валодае якасцямі, якія можна супаставіць з аналагічнымі ў арганічным свеце. Жыццёвая праўдзівасць і адпаведнасць, "праўда часу, гісторыі, характараў" суадносіцца з праўдай мастацтва, уключна да "праўды моўнай і кампазіцыйнай структуры, тону і інтанацыі". Гэта надзвычай важны момант, які хочацца асабліва вылучыць – тое, што С. Андраюк звязвае праўдзівасць літаратурнага твора не толькі з яго адпаведнасцю прадмету ўвасаблення, але і з тым, наколькі адпавядае сам твор высокім меркам мастацтва.

Суадносячы аўтарскі светапогляд і жыццёвы вопыт з катэгорыямі паэтыкі і стылю, С. Андраюк пазначаў тым

самым адзін з перспектыўных напрамкаў літаратуразнаўчых даследаванняў. Сапраўды, як пацвярджаюць гэта сучасная мастацкая практыка і яе літаратурна-крытычны аналіз, светапогляд аўтара ў большасці выпадкаў выяўляецца ў літаратурных творах не наўпрост, у выглядзе выказваемых непасрэдна сентэнцый, а апасродкавана, праз формы і спосабы арганізацыі мастацкага цэлага.

Такі даследчы метад у літаратуразнаўстве, які ўлічвае самую цесную, сінтэтычную паяднанасць змястоўных і фармальных бакоў творчага працэсу, можа прынесці ў сучасных умовах, несумненна, значна больш карысці, чым тыя падыходы, якія ігнаруюць гэта адзінства. У прыватнасці, ён супрацьстаіць тэндэнцыі разглядаць свет літаратурнага твора ў адрыве ад асобы аўтара, яго жыццёвага вопыту і кругагляду. “Убачыць за літаратурай пісьменніка” – гэта абвяшчаемая С. Андраюком мэта хоць і пераклікаецца з пастулатамі біяграфічнага метаду, аднак жа скіравана не да мінулага літаратуразнаўчай навукі, а ў дзень сённяшні і заўтрашні.

На думку С. Андраюка, свет літаратурнага твора паўстае ў сваёй стылявой шматфарбнасці, мастацкай непаўторнасці тады, калі адбываецца плённае ўзаемадзеянне, “узаемапранікненне аб’ектыўнай рэальнасці і суб’екта”. Менавіта тады, калі “прабіваецца на паверхню” непаўторная “пячаць індывідуальнасці” аўтара, выяўляецца яго канцэпцыя жыцця, тады твор набывае шматзначнасць і глыбіню.

Індывідуальны стыль залежыць ад “выражэння аўтарскага «я»”, ад наяўнасці “цэласнага, адзінага ў сабе рэальнага мастацкага свету”. Усе гэтыя паняцці цесна пераплецены між сабой, іх сувязь не проста канстатуецца, а доказна пацвярджаецца, выяўляецца С. Андраюком на прыкладзе грунтоўнага разгляду творчасці Івана Мележа. У раздзеле, прысвечаным Мележу і змешчаным у той жа кнізе “Стыль пісьменніка”, аўтар бліскуча прымяніў на

практыцы распрацаваныя самім тэарэтыка-метадалагічныя прынцыпы і падыходы.

С. Андраюк падмячае, акрэслівае, мабыць, самую істотнейшую рысу мележаўскага таленту – здольнасць пісьменніка адчуць сваіх герояў знутры, увайсці ў іх свет, убачыць яго іх вачыма. “Палеская хроніка” І. Мележа – гэта якраз той выпадак, калі “аб’ектыўны матэрыял рэчаіснасці і аўтар, яго думкі і пачуцці натуральна зліліся ў адно”. Гэтаму ў вялікай ступені садзейнічала тое, што жыццёвы матэрыял, увасоблены ў гэтых раманах, быў блізкім аўтару, здаўна знаёмым, глыбока спазнаным ім з пары маленства. “Мележ піша пра тое, – як адзначае даследчык, – што стала ўспамінам душы, памяццю сэрца”.

Менавіта душэўнай, экзістэнцыйнай набліжанасцю аўтара да ўвасобленай у “Палескай хроніцы” рэальнасці, а разам з тым і новым узроўнем мастацкай праўдзівасці, псіхалагічнай пераканаўчасці, гэтыя мележаўскія раманы вылучаюцца з усёй папярэдняй творчасці пісьменніка. С. Андраюк добра паказвае гэта, прасочваючы станаўленне індывідуальнага стылю Мележа, пачынаючы ад першых яго апавяданняў.

Разглядаючы ўсю папярэднюю творчасць І. Мележа, у тым ліку раман “Мінскі напрамак”, як “пошукі арыгінальнага стылю”, спробы знайсці сябе, подступы да чагосьці значна большага, С. Андраюк сцвярджае, што якраз “у раманах “Людзі на балоце” і “Подых навальніцы” стыль пісьменніка канчаткова акрэсліўся, праявіўся як мастацкая рэальнасць”. “У ранейшых творах, – на думку С. Андраюка, – пры ўсіх іх больш ці менш значных вартасцях не заўсёды можна было ўбачыць закончанасць і ўзаемаабумоўленасць розных элементаў мастацкага цэлага”.

У раманах “Палескай хронікі” стыль у вышэй адзначаным сэнсе праявіўся якраз у поўнай меры. Ён настолькі магутны, прасякнуты жыццёвымі токамі, на-

поўнены энергіяй тварэння, што С. Андраюк, схільны звычайна да аналітычна-ўзважанага, строгага выкладу сваіх думак, не ўтрымліваецца ад таго, каб не прыбегнуць у дадзеным выпадку да метафары. Жыццёвая плынь, выяўленая ў стылі мележаўскіх раманаў, уяўляецца даследчыку паўнаводнай ракой. “Жыццё, як шырокая павольная плынь, уліваецца ў раман, цячэ спакойна і павольна, захопліваючы ўсё большы прасцяг, не губляючы сваёй глыбіні і мнагаводнасці”.

Гэтай плыні падпарадкоўваецца ўсё ў мележаўскіх творах – ад ідэйных падагульненняў да сюжэтна-кампазіцыйных і рытміка-інтанацыйных суадносін. Таксама ўсебакова і шматзначна, як і паняцце стылю, разглядаецца С. Андраюком паняцце ***рытму***. У працах сучасных літаратуразнаўцаў-тэарэтыкаў гэта, дарэчы, адна з самых важнейшых катэгорый, якой вызначаецца спецыфіка мастацкай творчасці.

Характарам рытмічнай арганізацыі тэксту, усіх яго састаўных элементаў, абумоўліваецца, на думку С. Андраюка, мастацкая своеасаблівасць “Палескай хронікі”. “Рытм, інтанацыя, тон адыгрываюць вялікую ролю ў стварэнні пластычнага эмацыянальнага малюнка жыцця, знешняга і ўнутранага, у раскрыцці псіхалогіі. Яны пранізваюць усю моўную тканіну, асабліва выразна, калі аўтар глядзіць на падзеі вачыма таго або іншага героя. Тады рытм – гэта не столькі рытм падзеі, колькі рытм унутранага жыцця герояў”.

Пашыраючы ўплыў рытму і інтанацыі на сферу псіхалогіі, С. Андраюк у яшчэ большай ступені збліжае аб’ектыўнае і суб’ектыўнае, агульнае і індывідуальнае, знешняе і ўнутранае ў творчым працэсе. “Жыццёвы рытм галоўных персанажаў”, рытм “псіхалагічны” прадстае ўвасабленнем самых глыбінных і запаветных памкненняў і адчуванняў чалавека. Разам з тым “рытм вобразаў” нязменна звязаны ў яго з моўнай плынню, са спляценнем і

ўзаемапранікненнем "галасоў" персанажаў, спалучэннем аўтарскага бачання з кругаглядам герояў.

Каб паказаць індывідуальную адметнасць "жыццёвага рытму" герояў "Палескай хронікі", С. Андраюк зноў звяртаецца да аналогіі – параўнання руху характару з плынню ракі (метафара гэта паяўляецца ў даследаванні нездарма, вельмі ж яна дапасоўваецца да мележаўскага творчага метаду). Даследчык супастаўляе аўтарскія характарыстыкі-апісанні – Васіля і Ганны, іх характараў, паводзін і адчуванняў – як выявы дзвюх непадобных адна на адну сваім норавам рачных плыней.

Вось якім паўстае ва ўяўленні даследчыка, выяўляючыся ў руху, характар Васіля: гэта "рух глыбокай багністай ракі, якая ў сваёй бездані нясе многа нечаканага, невядомага нават ёй самой". Па-іншаму бачыцца плынь жыцця Ганны, рух яе характару – "гэта плынь ракі на больш высокім месцы. Гэта рака бяжыць сярод алешын, робіць шмат паваротаў, дзе шуміць, падмывае карэнне, дзе глыбока, спакойна цячэ па забалочаных мясцінах. Яна больш светлая, больш паэтычная, жывая".

Гэта сапраўды той рэдкі выпадак, калі С. Андраюк дзеля аналітычнага пранікнення ў сутнасць характараў герояў пісьменніка карыстаецца метафарычнай мовай. І тут, мабыць, па сіле выяўленчасці ён не саступае самому аўтару.

Кранаючыся праблем моўнага афармлення мележаўскага стылю, С. Андраюк, па сутнасці, адным з першых звярнуўся да распрацоўкі ***нараталагічнага*** напрамку даследаванняў у беларускім літаратуразнаўстве. Пры характарыстыцы апавядальнай манеры І. Мележа, на думку даследчыка, важна ўлічваць усю шматстайнасць узаемадачыненняў паміж аўтарам і героямі, якія ў моўным увасабленні прымаюць формы "унутранага маналога, няўласна-простай мовы, аўтарскай характарыстыкі".

С. Андраюк звярнуў увагу на такую асаблівасць

моўнай структуры мележаўскай “Палескай хронікі”, як ***“шматгалоссе”*** аповяду. Гэта ўласцівасць эпічнай, раманнай паэтыкі перш за ўсё і найбольш выразна выявілася якраз у І. Мележа. Беларускі празаік, як адзначае С. Андраюк, працягваў талстоўскую традыцыю шматгалосага апавядання. Услед за вялікім рускім пісьменнікам І. Мележ паказаў выяўленчыя магчымасці глыбокага пранікнення аўтарскага аналітычнага позірку ў свядомасць і падсвядомыя адчуванні героя.

Праз моўнае “двухгалоссе”, якое становіцца аб’ектам уважлівага аналізу даследчыка, перадаецца ў творах І. Мележа складаная гама пачуццяў, выяўляецца ўнутраны свет чалавека ў яго суверэннасці, асабовай пэўнасці. С. Андраюк падрабязна прасочвае, якім чынам адбываецца ўзаемадзеянне “галасоў” у мастацкай структуры рамана, як суадносяцца, накладваючыся часткова адна на адну, моўныя плыні аўтара і героя.

Унутраны маналог героя і няўласна-простая мова, у якой увасабляецца “двухгалосае” адзінства свету аўтара і героя, з’яўляюцца важнейшымі спосабамі мастацкага выражэння ў позняй прозе І. Мележа. Пісьменнік дасягае ў сваіх “палескіх” раманах высокай ступені майстэрства ў выяўленні праўды жыцця, раскрываючы сацыяльную і псіхалагічную прыроду характараў праз моўную адметнасць іх светаўспрымання. “Часта дыстанцыя (у мове) паміж аўтарам і героем знікае, – піша С. Андраюк, – гучыць нібы адзін голас героя: галоўнае – даць непасрэдна голас жыццю”. Голас героя, голас аўтара, голас самога жыцця – усё гэта зліваецца ў “Палескай хроніцы” ў мастацкім сугалоссі.

Робячы ў працах пра І. Мележа і іншых беларускіх празаікаў важкія тэарэтычныя абагульненні, прымяняючы інавацыйныя падыходы ў даследаванні, С. Андраюк разам з тым заўсёды скіраваны і на падрабязны, нават скрупулёзны, аналіз мастацкай тканіны літаратурнага твора.

Назіранні С. Андраюка над праявамі паэтыкі і стылю пісьменнікаў вызначаюцца трапнасцю, імкненнем звязаць у канцэптуальнае адзінства фармальныя і змястоўныя бакі творчага працэсу.

Так, напрыклад, выдатна падмечана даследчыкам роля эпітэта ў мастацкім свеце мележаўскіх раманаў, якая не зводзіцца толькі да дэкаратыўна-аздабляльнай, а з'яўляецца адным з істотных выяўленняў мастацкага светабачання аўтара. Да ліку важнейшых назіранняў над структурнымі асаблівасцямі раманаў трэба аднесці такую адзначаную С. Андраюком заканамернасць, як паступовае пашырэнне мастацкай прасторы разам з ускладненнем праблематыкі.

Да найбольш грунтоўных прац С. Андраюка як гісторыка літаратуры варта аднесці яго кнігу пра творчасць Івана Пташнікава – "Чалавек на зямлі" (1988). Аўтар манаграфіі імкнецца заглыбіцца ў мастацкі свет гэтага самабытнага празаіка, выявіць яго істотнейшыя рысы, сутнасць яго творчай манеры. І зноў жа на першым плане знаходзіцца тое важнейшае, што ляжыць у аснове рэалістычна арыентаванага тыпу літаратурнай творчасці – сувязь пісьменніка з непасрэднай рэальнасцю, з жыццём.

"Піша ён, – гаворыць аўтар пра І. Пташнікава, – выключна пра тое, што знаходзілася і знаходзіцца ў часавым і прасторавым абсягу яго асабістага вопыту". Гэту схільнасць перадаваць непасрэдныя адчуванні ад судакранання з рэчаіснасцю С. Андраюк лічыць вызначальнай рысай пісьменніцкага таленту І. Пташнікава. Гэтым перш за ўсё, мабыць, і прыцягвае да сябе даследчыка творчасць аднаго з самых выдатных сучасных празаікаў.

Падрабязна, разгорнута выяўляецца ў манаграфіі мастацкі свет майстра беларускай прозы, паказваюцца этапы станаўлення яго таленту. Не адразу, як заўважае С. Андраюк, пісьменнік знайшоў сваю ўласную манеру аповяду, хоць прыкметы яскравага мастацкага дару былі

вызразна адчувальнымі ад самага пачатку. Патрэбен быў даволі кардынальны зрух у вызначэнні аўтарскай пазіцыі ў адносінах да жыцця і мастацтва. Раздзел, у якім разглядаюцца гэтыя вызначальныя змены ў мастацкім светапоглядзе пісьменніка, названы паказальна – “На пераломе”.

С. Андраюк вельмі выразна і дакладна фармулюе сутнасць творчага метаду І. Пташнікава, які на поўную моц выявіўся ў яго творах новага перыяду. “У творах гэтага празаіка, – падкрэслівае С. Андраюк, – нішто не ляжыць на паверхні”. І працягвае далей: “Аўтарава пазіцыя, яго стаўленне да жыцця і чалавека, ідэя твора не дэкларуецца ні самім аўтарам, ні яго героямі...” Але гэта ніякім чынам не сведчыць пра іх адсутнасць наогул, “яны нібы ўвайшлі, растварыўшыся, ва ўсю эмацыянальную атмасферу твораў, іх маральна-этычнае напаўненне, абумовілі манеру апавядання, гучанне, рытм і тон фразы; яны ва ўсім тым, што неад’емна ўваходзіць у тое арганічнае багатае адзінства, назва якому – мастацкі свет пісьменніка”.

З глыбокім пранікненнем у змястоўныя глыбіні мастацкай формы, у асаблівасці паэтыкі І. Пташнікава разглядае аўтар манаграфіі гэты адметны індывідуальны мастацкі свет, у якім, на яго думку, “у самай малой клетачцы <...> адчуваецца, прысутнічае гістарычны час, ёсць натуральны выхад у вялікае жыццё”.

С. Андраюк умее вельмі чуйна ўлоўліваць, фіксаваць у сваіх працах гэту прысутнасць гістарычнага часу, дыханне “вялікага жыцця”. Гэтаму, відаць, садзейнічае тое, што і сам ён заўсёды настроены на ўспрыманне літаратурных з’яў у кантэксце гістарычнага часу, у іх цеснай сувязі з жыццём чалавека і грамадства.

Пільная ўвага да творчасці І. Пташнікава і іншых пісьменнікаў таго ж пакалення, якіх назвалі калісьці “філалагічным пакаленнем”, абумоўлена яшчэ і тым, што і

сам Серафім Антонавіч Андраюк належыць да яго. Гэтае пакаленне яшчэ называецца пакаленнем “дзяцей вайны”. Апошнюю акалічнасць С. Андраюк нязменна пакрэслівае, пішучы пра сваіх равеснікаў. У адным з артыкулаў (“Полымя”, 2011, № 6), ствараючы творчы партрэт Б. Сачанкі, ён якраз дае напачатку агульную характарыстыку гэтаму пакаленню, якому столькі прыйшлося спазнаць у жыцці, аднак жа суджана было і ўвасобіць усё перажытае ў высокамастацкіх творах.

*

З 2013 года ў беластоцкім часопісе “Тэрмапілы” пачалі штогод з’яўляцца новыя старонкі ўспамінаў Серафіма Андраюка. Яны так і называюцца аўтарам – “старонкі” (быццам старонка за старонкай перагортваецца няспешна жыццё). Аўтабіяграфічная проза выбітнага літаратуразнаўцы і крытыка адкрывае магчымасці новага погляду на яго як на асобу і творцу. Для С. Андраюка як даследчыка роднай літаратуры на першым месцы заўсёды знаходзіцца чалавек – герой твораў, сам пісьменнік, яго чытач. ***Чалавек, жыццё*** – гэтыя асноватворныя паняцці заўсёды ў цэнтры ўвагі ў працах С. Андраюка, аб гэтым сведчаць і назвы яго кніг. Навізна сітуацыі ў выпадку з “тэрмапілаўскімі” аўтабіяграфічнымі публікацыямі заключаецца ў тым, што тут жыццё выяўлена не чыёсьці старонняе, не вымышленага героя, а сваё ўласнае. І чалавек, які выступае на пярэдні план, робіцца ў нейкім сэнсе літаратурным персанажам – гэта ён сам, Серафім Антонавіч Андраюк.

Успаміны напісаны аўтарам грунтоўна, паслядоўна, з жаданнем не абмінуць самага істотнага, сказаць пра ўсё, што запала ў сэрца. Першая частка прысвечана самым раннім гадам жыцця, успамінам дзяцінства, якое прыпала на суровы ваенны час, гадам школьным і студэнцкім.

Часавы абсяг захоплены наогул шырокі. Выкладзена ж гэта ўсё даволі сцісла, на невялікай плошчы. Наступныя часткі прысвечаны адпаведна розным перыядам жыцця і працоўнай дзейнасці – вучобе ў аспірантуры і працы ў Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы Акадэміі навук, затым быў час працы на адказных пасадах галоўнага рэдактара і пазней дырэктара выдавецтва “Мастацкая літаратура”, і яшчэ заход па другому кругу, вяртанне ў родны Інстытут літаратуры – гэта ўжо пасля завяршэння выдавецкай дзейнасці.

Чытаючы згадкі аўтара пра вайну, што захавала дзіцячая памяць, усведамляеш з усёй пэўнасцю, што С. Андраюк належыць да таго ж пакалення, што і яго равеснікі-пісьменнікі, якія свой горкі дзіцячы вопыт ваеннага і пасляваеннага часу ўвасобілі ў мастацкіх творах. Нездарма крытык з такой увагай і прыхільнасцю заўсёды піша пра прадстаўнікоў свайго пакалення. З некаторымі яго звязвала шматгадовае сяброўства – Б. Сачанка, Я. Сіпакоў, І. Пташнікаў…

Ёсць адна адметнасць у біяграфіі С. Андраюка, якая вылучае яго з шэрагу равеснікаў. Гэта тое, што сям’і яго давялося пераязджаць з роднай вёскі Градалі на Беласточчыне, якая адыйшла пасля вайны да Польскай рэспублікі, на іншае месца жыхарства ў Беларусі. С. Андраюк апісвае падрабязна драматычны пераезд, сумненні родных, цяжкасці з выбарам канчатковага прыстанішча. Безумоўна, гэта была нялёгкая справа. Адарвацца ад звыклага асяроддзя, пакінуць назаўжды абжытыя здаўна мясціны. Катэгарычна супраць пераезду, як згадвае аўтар, была маці. Такім чынам, у С. Андраюка апынуліся як бы дзве малыя радзімы. Аднак, магчыма, гэтыя абставіны ў выніку садзейнічалі таму, што ўзраслі якраз любоў і адданасць да вялікай Радзімы, той, у якой спалучаюцца, зліваюцца ўсе вытокі.

Яшчэ пра адну любоў нельга не згадаць, пішучы пра

С. Андраюка. Пра любоў да кніг, якая спадарожнічае яму ўсё жыццё. Менавіта гэта любоў і прадвызначыла ў канчатковым выніку прафесійны шлях даследчыка літаратуры, выдаўца. У свой час вырашыўшы даволі радыкальна змяніць свае заняткі, перайшоўшы з акадэмічнага даследчага інстытута ў найбуйнейшае беларускае выдавецтва, якое займаецца выданнем мастацкай літаратуры, Серафім Антонавіч не здрадзіў сваёй любові. Хутчэй, наадварот, яна якраз і прывяла яго на новае месца працы, на новую пасаду. Тут, у выдавецтве, быў наглядна адчувальны працэс *стварэння* кнігі, яе матэрыялізацыі, набыцця ёю выразных індывідуальных прыкмет.

Азіраючыся на пражытыя гады, С. Андраюк з пэўным шкадаваннем піша пра пакінутую ім у свой час пасаду навукоўца, пра недаведзеную да канца справу з абаронай доктарскай дысертацыі. Мабыць, сапраўды на ніве літаратуразнаўчай навукі, літаратурнай крытыкі таленавітым даследчыкам было б зроблена значна больш, калі б ён застаўся працаваць на ранейшым месцы. Аўтар успамінаў сам адзначае, што новая праца кардынальным чынам адрознівалася ад ранейшай і вымагала вялікіх высілкаў. Аднак, у дадзеным выпадку нам бачыцца выяўленне хутчэй за ўсё аб'ектыўнай заканамернасці. Сам час вымагаў, каб да складанай выдавецкай працы далучыўся такі неабыякавы да кнігі чалавек, як Серафім Антонавіч Андраюк. У тым, што ў 1980-я – 1990-я гады выдавецтва "Мастацкая літаратура" значна актывізавала выданне літаратурнай спадчыны, твораў рэпрэсаваных аўтараў, эміграцкай літаратуры, несумненная заслуга С. Андраюка.

Зрэшты, С. Андраюк і ў выдавецкі перыяд сваёй дзейнасці, і пазней – да цяперашняга часу ўключна, не пакідаў і не пакідае літаратуразнаўчай і літаратурна-крытычнай працы. Таму што гэта ўсё-такі асноўнае для яго, лёсавызначальнае.

Успаміны С. Андраюка напісаны шчыра, праўдзіва. Аўтар не пазбягае вострых момантаў, не абыходзіць эпізодаў, якія пакінулі ў душы не самыя лепшыя пачуцці. Праўдзівасць, адказнасць, сканцэнтраванасць на сутнасным, галоўным – гэтыя якасці выяўляюцца напоўніцу ў літаратуразнаўчых працах С. Андраюка. Яны ж вызначаюць і характар яго аўтабіяграфічнай прозы.

*Яўген Гараднiцкi*

# I

Надышоў той час, той перыяд у тваім лёсе, калі ты жывеш у асноўным мінулым, а можа ў мінулым. Там ты жывеш сярод людзей, у пастаянным знешнім і ўнутраным кантакце з навакольным светам. Ён, свет той, твой. Бяры яго, шукай у ім сваё, душы патрэбнае. Асабліва ў дзяцінстве, у гады юнацкія. Сучаснасць жа ўжо, па сутнасці, не твая; дзень сённяшні не твой. Ты ім ужо дзесьці мала адпавядаеш. Грамадска-сацыяльныя сувязі, сяброўскія, таварыскія усё слабеюць і слабеюць. Будучыня?.. Не трэба быць наіўным.

А мінулае пастаянна як бы перажываецца нанова і па-новаму. Яно ўжо падаецца праверанае часам, у кантэксце асабістага лёсу, у плыні жыцця народа. Усё другараднае, нязначнае і неістотнае на тваёй жыццёвай дарозе, у тваім лёсе адмятаецца, знікае. Ты яго не помніш, яго не было. Мінулае часам, гадамі праверана і ачышчана. Найперш гэта датычыцца памяці эмацыянальнай, пачуццёвай. Бо гэтая памяць твая, асабістая, першасная. У аснове яе, у самым пачатку эмацыянальнае ўражанне, хваляванне, узрушэнне. Пазней яна можа пашырацца, паглыбляцца за кошт памяці іншых, памяці агульнанароднай, гістарычнай. Але гэта ўжо пазней,

потым. А адразу, спачатку – тваё ўласнае, асабістае. Яно найбольш жывое, адчувальнае. Якраз гэтае мінулае найчасцей усплывае ў памяці, хвалюе. Здалёк, вельмі здалёк кліча, гукае.

Ранняе-ранняе дзяцінства. Я ляжу на пасцелі: толькі што прачнуўся. У акно свеціць асабліва яркае сонца. Сонечна. Цёпла, радасна. Як бы плаваеш у гэтай сонечнасці. Уставаць не хочацца. Ды ніхто і не патрабуе.

Яшчэ ўспамін з тых часоў. Вясна. За дарогай, насупраць хаты наш луг. Месцамі яшчэ блішчыць вада. Але паўсюль ужо цвіце лотаць. Шмат сонца. Жоўта-зялёная прыгажосць.

І яшчэ адзін успамін шчымліва ўсплывае ў памяці. Зноў жа ўспамін веснавы. Перад хатай каля хлява на захад – агромністая вярба. Поўна птушак – галкі, шпакі, вераб'і, сарокі, нават совы. Раніцай вярба ўся асветлена сонцам, птушкі пяюць, шчабечуць. Проста як бы боскае дрэва.

Гэта некалькі эмацыянальных яркіх малюнкаў, светлых і шчаслівых, самага ранняга дзяцінства, якія дзесьці вызначылі адносіны да жыцця, яго ўнутранае ўспрыманне.

Жыццё ж рэальнае ў сям'і было, здаецца, не такое ўжо сонечнае, ружовае. Зямлі, разам з пашай, сенажаццю, было не так і мала – дзесьці каля пятнаццаці гектараў. Конь быў, каровы, авечкі, свінні, куры. Нармальная серадняцкая гаспадарка. Зямлю трэба было апрацоўваць, гаспадарку даглядаць. Працаваць даводзілася рана, шмат і ўсім. Сям'я была немалая – пяць сыноў у бацькоў было. Рана навучыліся баранаваць, касіць, жаць, малаціць, каровы і авечкі пасвіць. Што цікава: на рэлігійныя святы і ў нядзелю ніхто ніколі не

працаваў, нягледзячы ні на што. У той жа час на полі ніколі нічога не заставалася не ўбранага. Працавалі, што называецца, ад цямна да цямна. Было гэта, скажам шчыра, не надта прыемна. Мала калі хацелася з самой раніцы кароў выганяць: такі салодкі ранішні сон быў. А як спіна балела, калі даводзілася жаць сярпом… І ўсё тое было не якоесьці выключэнне. Так трэба было, так жылі ўсе ў вёсцы.

Бацькі – бацька Антон Мацвеевіч і маці Ганна Фёдараўна (дзявочае прозвішча Кадлубоўская) – у працы пярэдыху не мелі. Асабліва маці: трэба ж было дзяцей дагледзець, управіцца па гаспадарцы, бегчы на поле. Але што істотна: не было якойсьці забітасці, змардаванасці. Бацька амаль кожную нядзелю хадзіў у царкву: ён спяваў у царкоўным хоры. Спяваў добра. Часам браў мяне, і я сядзеў наверсе, там, дзе быў хор, і слухаў, слухаў. І не дакучала мне гэта. Бацька нядрэнна ўмеў чытаць. Зімовымі ці познеасеннімі вечарамі, прыходзілі суседзі, і ён чытаў уголас «Біблію». Слухалі ўважліва, абмяркоўвалі. Сваёй Бібліі не было, на нейкі час яе пазычалі ў таго, хто яе меў. Маці ледзь-ледзь умела чытаць, па складах, як кажуць. Але ў хаце было «Евангелле», і нярэдка яго можна было бачыць у руках маці. Была ўся яна засяроджаная і, штосьці шэпчучы, шавяліла губамі. Я не помню, каб маці хоць калі не рабіла што-небудзь, не завіхалася на двары ці ў хаце. Рэдкія былі гадзіны, калі ў святочны дзень жанчыны збіраліся дзе-небудзь на лавачцы пагаварыць, пасмяяцца. Але было тое. Восенню позняй і зімой жанчыны пралі кудзелю – лён, воўну. Збіраліся яны (дзве-тры) у чыёйсьці хаце і пралі, спявалі, расказвалі якіясьці гісторыі. Нярэдка сядзелі доўга – да гадзін дванаццаці.

З суседзямі жылі мірна, дружна. Суседская бабуля, якую мы называлі Банадычыха, была для нас як родная. Яна гуляла з намі, няньчыла меншых братоў. Часам прыходзіла і наша бабуля, бацькава маці (яна жыла з малодшым сынам у другім канцы вёскі), прыносіла гасцінчыкі. Мы, дзеці, былі шчаслівыя. У маці бацькоў не было ўжо. І яна заўсёды адчувала сябе дзесьці абдзеленай лёсам. Але асабліва сумаваць, журыцца не было калі: клопатаў гаспадарчых звыш меры, калі можна тут гаварыць пра якую меру. Ды і дзеткі-хлапчукі не давалі асабліва, як сёння кажуць, расслабляцца. Было жыццё як жыццё. Якіхсьці цёмных, змрочных мясцін у маёй памяці не пакінула. Былі, зразумела ж, у вялікай сям'і, асабліва сярод дзяцей, нейкія непаразуменні. Мы, хлопчыкі, не раз мелі жаданне і паваяваць адзін з адным. Маці часам не магла саўладаць. Клікала бацьку. Той прыходзіў з вуліцы, ужо трымаючы рамень у руках, лаючыся. Мы, як тыя мышы пад венік, зашываліся ў кут пад ложак.

Успамін пра той час, тыя гады застаўся светлы, добры. То было жыццё ў нейкай асаблівай еднасці з прыродай, з навакольным светам. Усё гэта фарміравала наш пачатковы эмацыянальны ды, напэўна, і духоўны свет.

Асобная старонка ў маім дзяцінстве звязана з вераснем 1939 года. Усё, што рабілася пазней, пакінула ў памяці адбітак нейкай святочнасці і ўзбуджанасці. Спачатку з'явіліся нямецкія войскі. Немцы былі тады нейкія мірныя, нават добрыя: дзяцей частавалі шакаладкамі, цукеркамі. Якогасьці пераследу, арыштаў не было. Дарослыя расказвалі, што ў адной суседняй вёсцы забілі настаўніка. Потым прыйшлі савецкія войскі.

Ніякіх баёў не было. Мяжа паміж Германіяй і СССР устанавілася па рацэ Буг, за нейкіх сорак кіламетраў на захад ад нашай вёскі. У вёсцы ўвесь час былі вайскоўцы. У нас у хаце таксама жыў афіцэр з жонкай. Першыя дні новай улады запомніліся нейкай агульнай узбуджанасцю, частымі сходамі. Раскулачвання ці нейкага пераследу ў нашай вёсцы не было. Праўда, у суседняй вёсцы, зноў жа расказвалі, раскулачылі аднаго ўладальніка невялікага маёнтка. У гэтыя гады пайшоў я ў школу, у першы клас, хоць было мне толькі шэсць гадоў. Жаданне хадзіць у школу было вялікае. Я проста бег туды. Што характэрна: якраз у тыя гады жыццё народнае, жыццё грамадскае, падзеі агульназначнага зместу хоць у малой ступені закранулі свядомасць, пакінулі нейкі свой эмацыянальны адбітак. Праўда, якісьці ён няпэўны, невыразны, расплывісты. Засталося адчуванне нейкай узрушанасці ранейшага ладу і парадку.

Вайна ўсё перавярнула. Ужо ў першыя дні мы яе адчулі: на захадзе чуліся стрэлы гармат і выбухі снарадаў, над вёскай пралятлі нямецкія самалёты. Каля чыгункі скінулі некалькі бомбаў. Запомнілася, ноччу ехалі абозы з людзьмі, крыкі, плакалі дзеці. Адчуванне нечага страшнага, невытлумачальна жахлівага. Ваенных дзеянняў ніякіх не было. На станцыі, яна была зусім недалёка ад вёскі, засталіся два пакінутыя таварныя эшалоны з прадуктамі харчавання, адзеннем. Тыя, хто пакідаў эшалоны, перадалі насельніцтву, жыхарам суседніх вёсак, каб яны разбіралі ўсё, нічога не пакідалі ворагу. Праз якія паўдня вагоны былі ачышчаны.

Праўда, калі прыйшлі немцы, было загадана ўсё вярнуць, здаць новым уладам. Хадзілі па хатах, шукалі,

дзе што схавана. У гэты час немцаў, па сутнасці, не бачылі. Ва ўсякім разе я не помню. Пачала ўсталёўвацца новая ўлада. Людзі працавалі на сваёй зямлі. Глядзелі свае гаспадаркі. Плацілі падаткі. Помніцца, яны былі немалыя. Мужчын адразу не чапалі. Пазней, калі ва ўсходніх раёнах з'явіліся партызанскія атрады, пачаліся «чыгуначныя войны», мужчын пачалі па начах пасылаць сцерагчы чыгунку. Ніякіх здарэнняў асаблівых у памяці не захавалася. Праўда, была адна гісторыя ў нашай сям'і. Вяртаецца аднойчы раніцай бацька з таго дзяжурства і не пазнаць яго. Ледзь ідзе, твар увесь у сіняках. Аказваецца, ён заснуў. І якраз натрапілі немцы-абходчыкі. Даўгавата давялося залечваць тыя раны.

Адкрылі школу. Пачалі вучыцца. Запомніўся настаўнік, асабліва яго беларуская мова — выразная, сакавітая. Справа ў тым, што мова, хутчэй гаворка, у нашых мясцінах была своеасаблівая... Да прыкладу: батько, маты, ходыты, робыты, што ты говорыш? Побач, дэ тыя овэчкі… Так і ва ўсіх суседніх вёсках. Насельніцтва ў асноўным было праваслаўнае. У нашай вёсцы, дзе было не менш сотні хат, быў толькі адзін паляк, каталік.

Але вернемся да школы. Займацца там доўга не прыйшлося. З'явілася кароста. Школу закрылі. Ды так і потым не адкрылі. Зразумела, у сям'і, дома было што рабіць. У вольныя хвіліны, асеннімі ці то зімнімі вечарамі, дзеці пачалі іграць у карты. Гэта было як насланнё нейкае. Сварыліся, часамі і біліся. Са мною ў гэтай сувязі здарылася адна гісторыя, якая добра запомнілася. Неяк у суседзяў я, нікому нічога не кажучы, ціхенька ўзяў калоду картаў, па простаму

ўкраў, і прынёс дадому. Відаць, пахваліўся, бо бацька моцна палаяў мяне і загадаў адразу несці назад і аддаць. Зараз не помню, што там і як было далей. Але гэта быў урок, можна сказаць, на ўсё наступнае жыццё.

Была ў гэтыя гады і светлая шчаслівая часіна, якая, не дай Бог, скончылася трагічна. З'явіўся ў нас брацік. Роды адбываліся дома. Прымала іх, здаецца, суседняя бабуля Банадычыха. Мы сядзелі ў суседнім пакоі ціха, у якімсьці баязлівым чаканні. Усё ўяўлялася нейкім таямнічым. Крык дзіцяці абудзіў нас ад здранцвення. У далейшым клопаты вакол дзіцяці неяк адводзілі ад усяго, што рабілася навокал. Я вельмі любіў брацікa, увесь час, калі той ужо падрос трохі, няньчыўся з ім. Ён таксама палюбіў мяне, ахвотна са мною гуляў. І як жа гэта было нечакана і балюча, калі Пецяя (так звалі брацікa) раптам захварэў (запаленне лёгкіх) і праз вельмі хуткі час памёр. Было яму дзесьці два гадочкі. Было вельмі шкада, крыўдна і балюча. Я доўга з маці хадзіў потым на могілкі. Сумаваў, гараваў.

Гэтая сямейная гісторыя, наколькі светлая, настолькі змрочна-трагічная, дзесьці трохі адхіліла нас ад падзей агульных, звязаных з вайною.

Па-сапраўднаму вайна дала сябе адчуць пры адступленні немцаў. Спачатку ўсё было досыць спакойна. Немцы адступалі без усякага супраціўлення. Салдацкая газета пісала, што савецкі салдат дайшоў да Буга (былая мяжа з фашысцкай Германіяй), напіўся вады з яго і сказаў: «Здравствуй, родной Буг». Раптам прарваліся нямецкія танкі, захапілі вёску. Стаялі каля гумнаў, хлявоў. Часта некуды выязджалі. Пачалі лётаць савецкія самалёты, бамбіць, страляць. Мы ўцяклі на станцыю, хаваліся ў мураваным склепе. Там нас было

нямала. Потым перабраліся ў акопы да сваякоў маці. Акопы былі спецыяльна выкапаны для сховаў. Больш тыдня захоўвалася такая сітуацыя: гарматныя стрэлы, налёты самалётаў. Асабліва страшныя, жахлівыя былі бамбёжкі. Гук самалёта, які пікіраваў, заганяў проста ў зямлю. Ды чалавек неяк прывык да ўсяго. Мы ўжо пачалі вызначаць па гуку снарада, які ляцеў, дзе ён мог упасці: свішча – паляціць далей, як бы шуршыць – можа разарвацца блізка. Імгненна хаваліся. Зноў жа танкі неяк раптоўна адышлі.

Мы вярнуліся ў вёску, дамоў. Хата, хлеў, гумно ці як мы называлі клуня, засталіся цэлыя. Але ўсюды бачны былі сляды куль, снарадаў. Пад нашай вярбою стаяла разбітая машына, далей – яшчэ адна. То тут, то там валяліся раскіданыя снарады, міны. Пазней не аднаго яны пакінулі калекай. Адчуванне было, што ўсё неяк як бы пасвятлела, стала лягчэй дыхаць. Збожжа пераспела, жыта палегла. Уразіла маё дзіцячае ўяўленне знойдзеная ў жыце адарваная кісць рукі. Доўга гэтае месца хацелася абыходзіць. У нас быў прыгожы малады конь. Яго забралі савецкія салдаты, пакінулі старую нямоглую кабылку. З ёю трэба было ўбіраць збожжа, рабіць усе асеннія работы. Але ўсё гэта ішло як звычайнае, мала заўважалася.

Нешта нязвычнае, новае пачалося позняй восенню ці то ўжо зімою. Прыехала аднойчы начальства, напэўна, з Бельска. Ехалі верхам на конях. Адзін быў невялікі ў скураной тужурцы. Як даведаўся ў тыя ж дні, гэта быў партызанскі камісар Зімянін, пазней вядомы партыйны дзеяч рэспубліканскага і саюзнага маштабу. Сабралі вялікі сход. Зімянін выступіў з палкай прамовай. Сказаў, што гэтыя землі зноў вяртаюцца

Польшчы ў адпаведнасці з міжнароднымі пагадненнямі. Заклікаў беларусаў ехаць у СССР. Расхваліў, якое там будзе выдатнае жыццё, зямлі хопіць, паноў не будзе. Узбудзіўся народ. Спрэчкі, абмеркаванні, роздумы. Бацька ўзгарэўся ехаць, сыны ўсе таксама, каб ехаць. Новы свет, падарожжа. Маці – супраць: свая хата добрая, гаспадарка людская. Толькі што пахавалі дзіця. Чаго там шукаць. Але бацька быў адданы прыхільнік савецкага ладу жыцця. Як жа не ехаць. Не дапамаглі слёзы маці, яе ўгаворы, просьбы. І зразумела ж, дзеці. Яны ўсе за тое, каб ехаць. Пачалі рыхтавацца. Тым больш, што агітатары не забывалі свае абавязкі. З намі збіраліся ехаць, у адзін і той жа час, пяць ці шэсць сем’яў. Прычым, яны не бедныя. Чаму паехалі? Відаць, у кожнага былі нейкія свае матывы і прычыны.

Вось адзін з недалёкіх суседзяў. Дбайны гаспадар. Меў сваю дагледжаную сажалку, дзе рыба плавала. Усё ў яго было акуратнае, выверанае; панаваў, ну проста ідэальны для нашых мясцін, парадак. У час першай сусветнай вайны ён трапіў у палон і нейкі час прабыў у Нямеччыне. І пры любой нагодзе хваліў нямецкі лад і парадак. «Не тое, што тая кабылка», – гэта ў адрас усходняга суседа. Прыйшлі немцы. За нейкую правіну ён трапіў да іх у рукі, пратрымалі яго некалькі дзён. Пасля гэтага чалавек зусім змяніўся. І як толькі прапанавалі, ужо пасля вайны, ён адным з першых запісаўся ехаць.

Пачалі рыхтавацца. Пачаліся зборы. З сабою можна было браць (і бралі) усё: коней, каровы, авечкі… Адзенне, абутак, сталы, крэслы, шкафчыкі… Па сутнасці, забіралі ўсю сваю гаспадарку – плугі, бароны, вазы, сані, косы, граблі, цапы малаціць, прасніцы…

Помніцца, занялі два вагоны ў таварным цягніку. У адным – жывёла і корм для яе. У другім – сям'я, ежа, адзенне, абутак, усе гаспадарчыя прыналежнасці. У гэтым жа вагоне была печка жалезная: ехалі ранняй вясною, холад яшчэ даваў знаць пра сябе.

Развітанне, ад'езд – нічога з гэтага не помніцца. З дарогі нейкія моманты захаваліся ў памяці. Дарога была далёкая: ехалі ў Сумскую вобласць. Так вырашылі калектыўна: зямля там добрая. Паехалі. Па дарозе ўсюды было спалена, разбурана. Рэдка дзе захаваліся будынкі на станцыях або цэлыя вёскі. Уразіў страшэнна выпадак на станцыі Бярдзічаў. Звычайна стаялі доўга. Дзеці, ды і дарослыя, выбягалі з вагонаў па сваіх патрэбах. Ніякіх туалетаў ці чагосьці падобнага ў вагонах не было. Дык вось выскачыў я з вагона. Бачу побач акопны роў: ніхто іх пакуль не засыпаў. Ускочыў я туды – і жахнуўся. Чалавечы труп – лахманы адзення, косці рук і ног, чэрап. Выскачыў я адтуль як ашпараны. Забыўся нават, чаго заскочыў у той акоп. Прайшло ўжо амаль семдзясят гадоў, а ўсё гэта бачыцца выразна і страшна.

Як гэта ні дзіўна, але помніцца яшчэ адзін момант з той доўгай і доўгай дарогі. Звычайна бацька ехаў у тым вагоне, дзе была жывёла. Аднойчы я туды напрасіўся. Прыйшоў нехта з суседняга вагона. Дарога доўгая, ехаць сумна. І вось на адной станцыі яны вымянялі на нешта бутэльку самагонкі з буракоў. Напэўна, і я папрасіў паспытаць. Налілі крыху. Я глытнуў і мяне тут жа ледзь не званітавала. Такой гадасці ва ўсе наступныя гады я не глытнуў ні разу. Хаця, шчыра скажу, гэта ад чаркі не адвадзіла. Доўгія гады даводзілася час ад часу браць яе. Часам і лішнюю, значна больш. І сёння, калі

нешта з таго ўспомніш, бывае вельмі сорамна. Але што зробіш: былое не вернеш.

Вернемся да нашага, так бы мовіць, падарожжа. Прыехалі ў Сумскую вобласць. Не помню, у сам горад Сумы ці то ў раён які. Голае поле, нідзе ні дрэўца. Як усхадзіліся жанчыны, за імі – мужчыны. Тут не застанемся. Некалькі дзён мітынгавалі. Упаўнаважаны, які суправаджаў цягнік, угаворваў, пагражаў. Нічога не дзейнічала. Тут не будзем заставацца. Вязіце нас у Беларусь. Нехта ўзгадаў, што ў свой час ён быў у мястэчку Шацілкі (сённяшні Светлагорск) Магілёўскай вобласці, і там добрыя мясціны. Павезлі нас туды. Праўда, адна ці дзве сям'і засталіся ў Сумскай вобласці. Прыехалі ў Шацілкі: жах. Усё разбурана. Ніводнага цэлага будынка не было. Недалёка падбіты самалёт ляжаў. Надвор'е даждлівае. Змрочна. Мясцовых людзей і відаць не было. І зноў жанчыны залямантавалі, заплакалі. Мужчыны таксама заўпарціліся. Упаўнаважаны пачаў пагражаць. Не помню ўжо, колькі часу цягнуліся гэтыя спрэчкі. Урэшце вырашылі ехаць у Баранавіцкую вобласць. Маўляў, там, калі што, дык і пешшу можна будзе пайсці дадому.

Прыехалі на станцыю Гарадзея. Тут паведамілі, што ўсіх расселяць у Мірскім раёне. Так амаль усіх і рассялілі па розных вёсках. Нашу сям'ю прывезлі ў невяліую вёсачку, былы шляхецкі засценак, Бербашы. Асобнай хаты свабоднай не было. Яны былі ўсе заняты пагарэльцамі з вёсак суседніх, партызанскіх. Трэба сказаць, што засценак быў раней увесь польска-каталіцкі. Многія да таго часу выехалі ў Польшчу, некаторыя пазней. Засталося дзве ці тры сям'і. Пасялілі нас у старой, крытай саломаю хаце. Хата была на два

канцы. У адным жылі двое ўжо старых Бербашаў, гаспадароў, у другім пасяліліся мы. Можна ўявіць, як гэта было, пакінуўшы новую хату ў некалькі пакояў. Абяцалі, калі хто выедзе, даць другую хату. Але абяцанка – цацанка… Так у гэтай хаце мы і жылі ўвесь час. Праўда, праз некалькі гадоў гаспадары выехалі ў Польшчу. Нам дастаўся і другі канец хаты.

Пачалося, па сутнасці, новае жыццё на новым месцы. У параўнанні з тым, як мы жылі ў Польшчы, гэта было вельмі і вельмі дрэнна. Уявіце сабе: шэсць чалавек у адным пакоі. На сядзібе ўсё чужое. Хлеў і гумно ў суседняй гаспадарцы. Страшна падумаць, як было нам, асабліва бацькам, а найперш ціхай нешматслоўнай маці, ва ўсё гэта ўжывацца. Але той шлях, які мы праехалі, пакуль прыехалі ў гэтыя Бербашы, паказаў нам, нашым бацькам, такое, што страшней, здаецца, і прыдумаць нельга. Разбураныя, спаленыя вёскі, ніводнай цэлай станцыі, падбітыя танкі, машыны, пустыя палі. Вакол толькі нямоглыя старыя, жанчыны, дзеці… Але нікуды не дзенешся.

У суседняй вёсцы Прылукі (там быў сельскі савет) таксама пасялілася дзве сям'і. Спачатку кожныя святы сустракаліся – то яны да нас у госці прыходзілі, то мы да іх. Гэта давала нейкае адчуванне нармальнага жыцця, душэўнага супакаення. Гэтак пакуль ужываліся ў новыя абставіны, прывыкалі да новых умоў. Але ў хуткім часе адна сям'я нашых землякоў з суседніх Прылукаў выехала дзесьці ў Рыгу, другая, таксама, як і мы, Андраюкі, выехала ў Альберцін (каля Слоніма). Засталіся мы адны. Але за гэты час мы ўжо неяк прызвычаіліся да новага жыцця. Пазней крыху прыехала яшчэ дзве сям'і з Польшчы ў нашы (ужо нашы)

Бербашы. Пачалося звычайнае вясковае жыццё. Але яно заўсёды так бывае: не знаеш, адкуль чакаць бяды і калі яна прыходзіць.

Тады, у пасляваенныя гады, помніцца, летам былі частыя і страшныя навальніцы, з моцнымі грымотамі, маланкамі, ліўнямі. Аднойчы дзесьці ў абед усчалася такая навальніца. Праўда, былі мы ўсе ў хаце. Не было толькі самага меншага брата Колі, ён пасвіў каровы. Маці была ў страшнай трывозе, месца сабе не знаходзіла ў хаце. Бацька стараўся супакоіць. Дарэмна. Яшчэ не сціх дождж, як у двор зайшлі каровы. Але пастушка не было. Маці, не дачакаўшыся, пакуль канчаткова сціхне дождж, выскачыла з хаты і пабегла за вёску. Мы таксама выскачылі на вуліцу. Зусім скора пачуўся страшэнны плач, маленне. Мы ўсе кінуліся туды. Убачылі – на дарозе ляжаў наш хлопчык, нерухомы. Забіты маланкай. Чаму? Ад чаго? Для ўсіх нас было вялікае гора, асабліва для маці. Яно яе страшна падкасіла. Жыццё на доўгі час страціла для яе свой сэнс і хоць якую радасць.

Выбіты быў з каляіны і я. У гэты час ужо вучыўся ў школе ў Міры. Да гэтага ж адзін год вучыўся ў пачатковай школе ў нашай вёсцы. Вучняў было мала. Вучыліся па два класы: 1 і 3, 2 і 4. Было два настаўнікі. У тыя галодныя, цяжкія гады пытанне ўкамплектаванасці класаў і школ не ўзнікала. Трэба было вучыць. У 3 класе, у які я прыйшоў, нас было тры вучні. Прайшло паўгода: дваіх перавялі ў 2 клас, мяне – у 4. Пасля заканчэння здаў экзамен і ў пяты клас пайшоў у Мірскую сярэднюю школу. Школа была драўляная, размяшчалася на ўсход ад замкавых валоў. Вучыліся ў дзве змены. У школу хадзілі пешшу – кіламетраў было з

сем. Хадзілі ў любое надвор'е. Зімой выходзілі яшчэ цёмначы. Часта даводзілася ісці аднаму. Па дарозе былі відаць збоку толькі дзве хутарскія сядзібы. Аднаму было страшна. Але што зробіш: трэба было вучыцца. Па лясах яшчэ бадзяліся бандыты, было шмат ваўкоў. Ды, дзякуй Богу, нічога гэтага мне не давялося спаткаць. Вучыўся ахвотна. Асабліва падабалася руская літаратура. Настаўніца была ў нас выдатная (яна ж і дырэктар школы) – Марыя Паўлаўна Багамазава. Пазней ёй было нададзена ганаровае званне Заслужаная настаўніца БССР, узнагароджана ордэнам Леніна.. Яна была спакойная, вытрыманая, голасу не павышала. Расказвала цікава, даходліва, з унутраным хваляваннем. Слухалі яе ўважліва, стараліся добра рыхтаваць урокі. Заахвочвала да чытання. Помню, з якім хваляваннем чытаў я том са Збору твораў А. С. Пушкіна (яго паэмы), які настаўніца дала мне. Чытанне гэтай кнігі было сапраўдным святам. Яна яшчэ больш заахвоціла маё імкненне да чытання. Якраз у гэтыя гады з'явілася ў мяне нейкая сапраўдная прага да чытання. Кніг было мала і ў школьнай, і ў раённай бібліятэцы. Перачытаў я іх шмат. Вучоба з цягам часу стала справай звычайнай, штодзённай. Поспехі былі нядрэнныя – адзнакі ў асноўным 4 і 5. Усё больш пачынаў як бы прывыкаць да навакольнага свету, уваходзіць у гэты свет, пазнаваць яго. Часта перабіраліся праз вал, заходзілі ў замак. Ён быў увесь разбураны. Даху на вежах не было, вакон таксама. Знайшлі там прыстанішча 2 ці 3 сям'і, у каго згарэлі хаты. Лесвіц не было: высока падняцца нельга было. Расказвалі, што ў вайну ў замку немцы трымалі яўрэяў – было гета. Недалёка ад школы на ўсход, ля самай дарогі (гасцінца) на Стоўбцы знаходзілася вя-

